ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 67(5249)
Субота, 16 чэрвеня 2001 года

Кошт у розніцу — 51 руб.

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## Надышоў час прафесіяналаў

Сённяшняя адукацыя мае шмат праблем. Але на з'ездзе настаўнікаў неабходна абмеркаваць і праблемы бібліятэк адукацыйных устаноў, бо ад стану інфармацыйнага забеспячэння вучэбнага працэсу залежыць выкананне настаўнікам яго прафесійных абавязкаў. Якасная работа школьнай бібліятэкі, напрыклад, можа зняць значную частку праблем настаўнікаў.

Сёння рэальныя ўмовы існавання бібліятэк некаторых школ, ПТВ і нават тэхнікумаў зусім не адпавядаюць патрабаванням часу і не даюць магчымасці ўплываць на адукацыйны працэс.

Яскрава характарызуе сітуацыю тое, што ў многіх дакументах адукацыі школьныя бібліятэкі амаль не згадваюцца. Ці можна гаварыць пра сапраўдную інфарматызацыю адукацыі, ігнаруючы тых, каму належыць сёння вядучая роля ў інфармацыйным забеспячэнні вучэбнага працэсу?

Калі паслугі, што прапануе сёння бібліятэка, замяніць на выкананне ёю функцый інфармацыйнага цэнтра, адукацыйны працэс атрымае сапраўдную падтрымку ў выглядзе электронных каталогаў, баз дадзеных, нетрадыцыйных носьбітаў інфармацыі і г.д. Але без паразумення з кіраўніцтвам установы немагчыма зрабіць бібліятэку сучаснай, бо наяўнасць ці адсутнасць камп'ютэра або чытальнай залы залежыць ад кіраўніка.

Адной з прычын заняпаду некаторых бібліятэк з'яўляецца стаўленне да яе кіраўніцтва школы. Менавіта адміністрацыі трэба паклапаціцца пра тое, каб бібліятэка не нагадвала набіты таварам склад і там не працаваў "спецыяліст" пасля трохмесячных бухгалтарскіх курсаў.

Сёння надышоў час прафесіяналаў. Прынцыпова змянілася сама сутнасць як адукацыі, так і бібліятэчнага абслугоўвання. Відавочна, што выкладанне пэўнага прадмета патрабуе адпаведнай адукацыі. Тады чаму ў нашых бібліятэках сёння так многа выпадковых людзей? Адміністрацыю школы павінен хваляваць такі, напрыклад, факт: каля двух тысяч вучняў абслугоўваюць два (!) бібліятэкары. Пры такой нагрузцы немагчыма забяспечыць нават самы неабходны мінімум паслуг, не гаворачы ўжо пра захаванасць фондаў і элементарны парадак.

Наш час дае магчымасць прымаць рашэнні, дзейнічаць рознаварыянтна дзеля дасягнення пэўных мэтаў. Але такая дзейнасць спалучаецца з адказнасцю. І не заўжды, на жаль, знаходзяцца людзі, здольныя прыняць рашэнне і згодныя ўзяць на сябе за яго адказнасць. Аналізуючы стан бібліятэк сістэмы адукацыі, бачыш лепшы вынік менавіта там, дзе імкнуцца нешта змяніць. Але для многіх прывычней скардзіцца на тое, што ў фондах школьных бібліятэк, напрыклад, няма даведачнай літаратуры, чым аднойчы мэтанакіравана прыдбаць энцыклапедыі, слоўнікі і даведнікі за грошы, атрыманыя бібліятэкамі за макулатуру. У адным з раённых аддзелаў адукацыі нашай рэспублікі я сустрэла такі варыянт рашэння праблемы.

Можна шкадаваць, што павышаць кваліфікацыю бібліятэкараў у міжкурсавы перыяд няма каму, а можна на ўзроўні раёна стварыць умовы для эфектыўнай дзейнасці метадычнага аб'яднання і даць яму магчымасць вырашаць прафесійныя пытанні.

Загадчыцы бібліятэк маюць магчымасць знайсці дадатковыя крыніцы дакамплектавання. Але ўзнікае пытанне, якое мне задала падчас курсаў адна з бібліятэкараў: "Вось вы вучыце: туды тэлефанаваць, туды звярнуцца, там дамовіцца... А што рабіць, калі наша кіраўніцтва не праяўляе зацікаўленасці? Можа, дзве назвы падпіскі ў сталічнай школе здаюцца дастатковымі? І як я буду ўсё гэта рабіць, калі працую адна і абавязана ўвесь час знаходзіцца на абслугоўванні?" Чаму мы не давяраем спецыялістам? Часта з-за гэтага людзі звяртаюцца за кансультацыямі па пытаннях, якія не павінны былі ўзнікаць: ці можна не зачыняць бібліятэку на санітарны дзень, ці можна на аднаго супрацоўніка планаваць 30 масавых мерапрыемстваў, ці можна згублены падручнік замяніць дэтэктывам ці зборнікам амерыканскай фантастыкі і г.д.

Крыўдна, калі бачыш недавер да спецыялістаў. Бібліятэкар вырашае знізіць кнігазабяспечанасць, што дасць магчымасць адкрыць для карыстальнікаў значную колькасць фондаў. Па розных прычынах у нас зрабіць пераразмеркаванне звышскладана нават паміж некалькімі школьнымі бібліятэкамі і амаль немагчыма паміж бібліятэкамі рознай ведамаснай прыналежнасці. Хіба можна пры нашай беднасці дазваляць, каб вострaнеабходныя у іншым месцы фонды стаялі нерухома? Хто можа лепш за бібліятэкара ведаць патрэбы чытачоў, тым больш што гэта работа павінна здзяйсняцца супольна з выкладчыкамі дысцыплін? Чаму і ў каго ўзнікла думка пра недапушчальнасць руху фондаў, калі гэта сусветная практыка?

Зніжае якасць работы заганная, але распаўсюджаная практыка амаль не разглядаць пытанні, звязаныя з работай бібліятэкі, на педагагічных саветах. Значна больш было б карысці, калі б пры разглядзе любога пытання ўлічваўся б бібліятэчны аспект. Тады для кіраўніцтва больш відавочнымі былі б патэнцыяльныя магчымасці такой структуры, як бібліятэка, і не паўставала б пытанне, чаму камп'ютэр трэба аддаць менавіта ў бібліятэку.

Агульная тэндэнцыя развіцця бібліятэк у сістэме адукацыі — стварэнне на іх базе медыятэк, дзе збіраюцца ўсе інфармацыйныя крыніцы незалежна ад віду. У рэспубліцы існуе вопыт, калі створаная ў адной са школ медыятэка дапамагае вырашыць і для іншых школ праблемы забеспячэння вучэбнага працэсу недрукаванымі крыніцамі: аўдыёматэрыяламі, відэакасетамі, дыскетамі і г.д. Каб дасягнуць добрых вынікаў, трэба дзейнічаць.

Вельмі малаэфектыўная традыцыйная бібліятэка без адкрытага доступу да фондаў (хоць і частковага), электроннага каталога, сістэмы заняткаў па фарміраванні бібліятэчна-інфармацыйнай культуры карыстальнікаў, чытальнай залы, выкарыстання электронных крыніц і новага ўзроўню інфармацыйнага ўзаемадзеяння з іншымі бібліятэкамі. У працы з дзецьмі важнейшай сацыяльнай задачай называецца прафілактыка так званай функцыянальнай непісьменнасці — далучэнне дзяцей да сістэматычнага чытання. Як можна замацаваць гэтую звычку пры адсутнасці арганізаванай бібліятэчнай прасторы і элементарнага камфорту?

Не магу пагадзіцца з меркаваннем, што паглядзець і прааналізаваць дзейнасць бібліятэкі можа чалавек любой прафесіі, які нават не валодае тэхналогіяй бібліятэчнай справы. Таму нездарма часта скардзяцца на неаб'ектыўнасць аналізаў работы бібліятэк, абсалютызацыю асобных накірункаў дзейнасці.

Сёння адукацыйныя ўстановы Беларусі маюць бібліятэкі самага рознага ўзроўню. Нехта з бібліятэкараў адукацыйных устаноў пры падтрымцы кіраўніцтва ўжо сёння інфармацыйна забяспечвае вучэбны працэс у адпаведнасці з патрабаваннямі часу. Нехта — толькі пачынае рэалізацыю праграмы стварэння на базе бібліятэкі інфармацыйнага цэнтра адукацыі. А ёсць і тыя, што разумеюць неабходнасць перамен, але нічога пакуль не могуць зрабіць.

Рэфармуючы адукацыйны працэс, не ігнаруйце бібліятэку і прафесіяналаў, якія там працуюць. Часта зусім "ніякая" бібліятэка — толькі адлюстраванне такой жа адукацыйнай установы.

Неабходнымі ўмовамі для стварэння творчай атмасферы, якая стымулявала б інавацыйную дзейнасць настаўніка, з'яўляюцца павага да яго прафесіяналізму і давер. Хацелася б спадзявацца, што ў час прафесіяналаў такое ж стаўленне будзе і да бібліятэкараў.

**Людміла НЕСЦЯРОВІЧ,**
**загадчыца навукова-педагагічнага аддзела Рэспубліканскай навукова-педагагічнай бібліятэкі.**



Лета–2001

## "Маленькая краіна"

***Па ініцыятыве Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Ранак" Маскоўскага раёна сталіцы на базе трох інтэрнатаў (камбіната сілікатных вырабаў, аўтобуснага парка № 5 і тралейбуснага дэпо № 3) створаны летнік для адпачынку дзяцей.***

"Маленькая краіна" (так назвалі сваю часовую арганізацыю самі дзеці) налічвае пяцьдзесят "грамадзян" ва ўзросце ад 7 да 13 гадоў. Дзіцячыя пакоі ў інтэрнатах ператварыліся ў своеасаблівыя атрады, кожны з іх мае сваю назву. Напрыклад, атрад аздараўленчай пляцоўкі аўтобуснага парка мае назву "Дзьмухаўцы". Выхавальнікі ў летніку — кіраўнікі гурткоў народнай творчасці цэнтра "Ранак".

Вольга Рыгораўна Барашка, Надзея Валяр'янаўна Маляціна, Марыя Андрэеўна Кірыенка вучаць дзяцей у цэнтры творчасці шыць, вязаць, асвойваць ганчарнае майстэрства і іншыя віды народнай прыкладной творчасці. А цяпер у летніку яны навучаюць дзяцей здароваму ладу жыцця, актыўнаму адпачынку на ўлонні прыроды, культуры паводзін.

Усе цікавыя справы "Маленькай краіны" плануюцца кіраўніком летніка, педагогам-псіхолагам Людмілай Адамаўнай Вашчыла, разам са сваімі памочнікамі-выхавацелямі і дзецьмі.

Грамадзяне "Маленькай краіны" пабывалі ўжо на цікавых выставах, у тэатры, удзельнічалі ў свяце цэнтра "Ранак", сустракаліся з кампазітарам Ігарам Лучанком і паэтам Леанідам Пранчаком. А наперадзе яшчэ так шмат захапляючых мерапрыемстваў, сустрэч і святаў!

**Зінаіда МІШУРА.**

НА ЗДЫМКАХ: атрад "Дзьмухаўцы" ў добрым настроі; выхавальніца Вольга Рыгораўна Барашка са сваімі дзецьмі.

**Фота аўтара.**




16 чэрвеня — Дзень бібліятэк

## Частка культурнай прасторы

Незвычайна пачаўся 22 мая рабочы дзень у Навуковай бібліятэцы Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. У чытальнай зале ў выкананні студэнтаў аддзялення мастацтваў гучала скрыпічная музыка. У рамках падрыхтоўкі да 200-годдзя Гродзенскай губерні тут пачалася рэалізацыя праекта "Бібліятэка як частка культурнай прасторы рэгіёна". У фае была ўстаноўлена скульптурная кампазіцыя "Рэха" — работа члена Саюза мастакоў Рэспублікі Беларусь скульптара У.У.Церабуна. У чытальнай зале ўрачыста адкрылася пастаянна дзеючая карцінная галерэя. У экспазіцыі — лепшыя дыпломныя работы студэнтаў універсітэта.

На ўрачыстасцях прысутнічалі госці з усёй Беларусі — кіраўнікі і вядучыя спецыялісты інстытуцкіх бібліятэк. Бібліятэка становіцца не толькі інфармацыйным цэнтрам, але і сапраўдным цэнтрам культуры, падкрэслівалі ў сваіх выступленнях рэктар ГрДУ імя Я.Купалы прафесар С.А.Маскевіч, дырэктар Навуковай бібліятэкі універсітэта Г.В.Данілаў, загадчык кафедры выяўленчага мастацтва А.А.Ляшчынскі.

У такой урачыстай атмасферы пачалася работа двухдзённага навукова-метадычнага семінара "Інстытуцкія бібліятэкі: удзел у інфарматызацыі навучальнага працэсу і навукова-даследчай работы". Арганізаваны па ініцыятыве Фундаментальнай бібліятэкі БДУ і навуковай бібліятэкі ГрДУ (старшыня аргкамітэта — П.М.Лапо), семінар прыцягнуў увагу кіраўнікоў метадаб'яднанняў, дырэктараў бібліятэк, а таксама спецыялістаў у галіне інфарматызацыі інстытуцкіх бібліятэк рэспублікі, перш за ўсё БДУ, БДЭУ, Беларускага універсітэта культуры, вядучых рэспубліканскіх навуковых біблятэк краіны, інстытуцкіх бібліятэк усіх рэгіёнаў Беларусі. І гэта не выпадкова. Такі семінар рэспубліканскага ўзроўню праходзіў упершыню за апошнія 16 гадоў. Трэба адзначыць, падкрэслівалі ўдзельнікі семінара (а іх было больш за 50), што семінар арганізаваны не ў сталіцы, а ў рэгіёне. А цікавасць да бібліятэкі Гродзенскага дзяржуніверсітэта была выклікана тым, што тут актыўна распрацоўваюць і ўкараняюць новыя інфармацыйныя сродкі падрыхтоўкі прэзентацый MS PowerPoint.

Распрацоўка і рэалізацыя доўгатэрміновых праграм развіцця інстытуцкіх бібліятэк, праблемы інфарматызацыі і аўтаматызацыі, выкарыстанне сусветных інфармацыйных рэсурсаў у інфармацыйна-бібліяграфічным абслугоўванні чытачоў, аўтаматызаваная інфармацыйная сістэма "Бібліятэка" як частка АСК "ВНУ", стварэнне і прасоўванне афіцыйнага Web-сайта бібліятэкі ў Інтэрнеце, электронныя ўзоры прац выкладчыкаў ГрДУ як элемент электроннай бібліятэкі, мультымедыйныя тэхналогіі ў адукацыі, падрыхтоўка бібліятэчных кадраў і чытачоў да работы ва ўмовах укаранення новых інфармацыйных тэхналогій — вось далёка не поўны пералік пытанняў, абмеркаваных на семінары.

Семінар распрацаваў выніковы дакумент — рэкамендацыі "Асноўныя накірункі інфармацыйнага ўзаемадзеяння інстытуцкіх бібліятэк". Навуковая бібліятэка ГрДУ імя Я.Купалы выступіла з ініцыятывай падпісання дагавораў паміж інстытуцкімі бібліятэкамі па пастаянным бясплатным кнігаабмене.

Вынікі анкетавання паказалі, што семінар прайшоў на высокім навукова-метадычным і арганізацыйным узроўні. Вялікую цікавасць выклікала і культурная праграма семінара.

З удзельнікамі семінара сустрэліся рэктар універсітэта прафесар С.А.Маскевіч, прарэктары прафесар І.П.Мартынаў, дацэнт Ю.Р.Бяйцюк, кіраўнікі шэрага структурных падраздзяленняў Гродзенскага дзяржуніверсітэта, зацікаўленыя ў павышэнні ролі інстытуцкай бібліятэкі ва ўмовах рэфармавання вышэйшай школы.

***

Чаканні чытачоў апраўдаліся: яны трымаюць у руках выпуск бібліяграфічнага паказальніка "Карпаратыўныя інармацыйныя рэсурсы бібліятэк ВНУ г.Гродна", выдадзенага на правах рукапісу метадычным цэнтрам бібліятэк вышэйшых навучальных устаноў Гродна — Навуковай бібліятэкай Гродзенскага дзяржуніверсітэта. Мэта яго складальнікаў — даць шырокаму колу карыстальнікаў звесткі аб размеркаваных карпаратыўных інфармацыйных рэсурсах вядучых бібліятэк вышэйшых навучальных устаноў, якія ўваходзяць у метадычнае аб'яднанне бібліятэк ВНУ Гродна.

Першы выпуск паказальніка адлюстроўвае інфармацыйна-бібліяграфічныя рэсурсы навуковай бібліятэкі ГрДУ імя Я.Купалы, бібліятэк Гродзенскага дзяржаўнага аграрнага універсітэта і Гродзенскага дзяржаўнага медыцынскага універсітэта.

Паказальнік складаецца з трох раздзелаў, кожны з якіх адлюстроўвае інфармацыйны патэнцыял канкрэтнай бібліятэкі. У раздзелах пададзены звесткі аб электронных каталогах бібліятэк, базах даных на CD-ROM і магнітных носьбітах, спісы перыядычных выданняў, што атрымліваюцца бібліятэкамі.

Паказальнік адрасаваны бібліёграфам і шырокаму колу чытачоў.

Абітурыент–2001

## У добры шлях, студэнты!

***Набліжаецца час уступных экзаменаў — да іх пачатку засталіся лічаныя дні. Гэта значыць, у навучэнцаў выпускных класаў агульнаадукацыйных школ рэспублікі, гімназій, ліцэяў і іншых навучальных устаноў наперадзе — сур'ёзныя выпрабаванні. Але пераможцы заключных тураў алімпіяд "Абітурыент БДУ-2001", што нядаўна адбыліся ў Белдзяржуніверсітэце, іх ужо вытрымалі. І даволі паспяхова.***

Па словах начальніка галоўнага ўпраўлення вучэбнай і навукова-метадычнай работы, адказнага сакратара прыёмнай камісіі БДУ, дацэнта В.В.Самахвала, у заключных турах алімпіяд прынялі ўдзел 809 чалавек. З іх агульная колькасць пераможцаў склала 182, а прызёраў — 194 чалавекі, гэта значыць кожны другі ад колькасці ўдзельнікаў. Варта зазначыць, што ў гэтым годзе алімпіяды праводзіліся не толькі па праграмах факультэтаў механічнай матэматыкі, матэматыкі і інфарматыкі, эканомікі, фізікі і інфарматыкі, радыёфізікі і электронікі, як гэта было ў мінулым годзе, але і па хіміі, гісторыі, геаграфіі, біялогіі, рускай і беларускай мовах.

Сярод тых, хто ўдзельнічаў у заключных турах, былі пераможцы і ўдзельнікі рэспубліканскіх, Мінскай гарадской і абласных алімпіяд, а таксама Рэспубліканскай навукова-даследчай канферэнцыі і нават удзельнікі міжнароднай навуковай канферэнцыі ў Польшчы. Гэта яшчэ раз пацвярджае, што алімпіяды "Абітурыент БДУ" праводзяцца ў гэтай навучальнай установе на высокім узроўні. Ды і ўвогуле студэнты, якія былі залічаны на факультэты па выніках алімпіяд, як падкрэслівае Віктар Самахвал, маюць стопрацэнтную паспяховасць. Сярод удзельнікаў апошніх тураў алімпіяд "Абітурыент БДУ-2001" у ліку пераможцаў — 58 навучэнцаў ліцэя БДУ, або 31,9 працэнта ад іх агульнай колькасці. Так, па хіміі на першым месцы аказаліся Аляксандр Зайдзень і Канстанцін Пархімовіч, па матэматыцы і эканоміцы — Аляксандр Лузгін, па матэматыцы — Алег Сіманенка. Больш за тое, па фізіцы, фізіцы і інфарматыцы ліцэй БДУ ўтрымлівае ўпэўненае першынство, а па біялогіі, гісторыі, матэматыцы і інфарматыцы, рускай і беларускай мовах — на трэцім прызавым месцы.

Прыемна канстатаваць, што сярод пераможцаў алімпіяды 66 чалавек — прадстаўнікі рэгіёнаў. Напрыклад, у іх ліку па колькасці набраных балаў — 36 — наперадзе вучань Слонімскай сярэдняй школы № 8 Андрэй Касінскі, якому ўступіў Андрэй Ярута з Лагойска. Другое прызавое месца па матэматыцы заняў Андрэй Астроўскі з Дзяржынска. Варта адзначыць, што вучні з гэтага горада паказалі нядрэнныя вынікі па фізіцы і інфарматыцы, а сярэдняя школа № 1 выйшла на трэцяе месца.

У той жа час Аляксей Радзівановіч з Вілейскай гімназіі быў мацнейшы па гісторыі — 36 балаў. За ім — Арцём Назаранка з гомельскай сярэдняй школы № 56. Па беларускай мове на другім месцы Вольга Палукошка са Столінскага раёна, а па рускай мове першынствавала Вольга Зуева з пінскай гімназіі № 1. Дзейны ўдзел у алімпіядзе прыняла і Наваполацкая сярэдняя школа № 9. Яе вучань, Мікалай Анісімаў, па колькасці набраных балаў у апошнім туры быў трэцім.

Колькасць пераможцаў па Мінску складае 52 чалавекі. Добра праявіла сябе Вольга Шаблоўская — яна стала другой па матэматыцы і эканоміцы. Але асабліва вызначыўся Павел Ламака з сярэдняй школы № 74 Кастрычніцкага раёна сталіцы, які паказаў па роднай мове сапраўды грунтоўныя веды. Пра гэта сведчаць 137 балаў яго рахунку. А па матэматыцы трэцяе месца заняла школа № 140 Фрунзенскага раёна.

Між іншым, найбольшая колькасць пераможцаў, як паведамілі ў прыёмнай камісіі, вызначана па матэматыцы і інфарматыцы — 42 чалавекі. Шкада толькі, што сярод іх усяго дзве дзяўчынкі — Алена Едка і Ірына Козел.

Затое дзяўчынкам падабаецца эканоміка і матэматыка. Як, зрэшты, і хлопчыкам. У алімпіядзе па гэтых прадметах ўдзельнічалі ў апошнім туры 117 чалавек. Праўда, пашанцавала толькі 16. Прызёрам і лепшым удзельнікам алімпіяды па эканоміцы і матэматыцы ў залежнасці ад паказчыкаў можа быць выстаўлена пры жаданні адпаведная адзнака па матэматыцы (пісьмова) — "9" або "8".

Зразумела, лепш быць пераможцам, чым прызёрам. Але быць прызёрам таксама нядрэнна, бо, згодна з палажэннем аб алімпіядах, якія праводзіць Белдзяржуніверсітэт, прызёры маюць права паступаць на адпаведныя факультэты на ўмовах, прадугледжаных "Правіламі прыёму ў БДУ на 2001 год" для медалістаў.

У алімпіядзе, як і ва ўсякім конкурсе, ёсць свая радасць, ёсць і свой смутак. Але тым, каму не пашанцавала сёлета, засмучацца асабліва не трэба. Па-першае, атрымана добрая практыка, паўторана тое, што неабходна ведаць на іспытах, і увогуле нічога не страчана. Па-другое, наперадзе ўступныя выпрабаванні. І на гэты раз фартуна не павінна прайсці міма.

**Алена ЕВІНКА,**
**выпускніца сярэдняй школы № 141 Мінска.**

Нам тэлефануюць

### Вучацца хлопцы страляць

Па традыцыі вучэбна-палявыя стрэльбы дзесяцікласнікаў Віцебскага раёна праходзілі на палігоне ў Лосвіда. Удзельнічалі ў іх 129 хлапчукоў. Нягледзячы на дождж, яны з інтарэсам знаёміліся з вучэбным цэнтрам мабільных сіл, атрымалі ўяўленні аб службе салдат. Самым вялікім задавальненнем стала, зразумела, стральба з сапраўдных аўтаматаў Калашнікава. І як узнагарода за вытрымку і цярпенне падаспеў сапраўдны салдацкі абед, прыгатаваны на ваенна-палявой кухні.

Такія зборы раней працягваліся два тыдні, але з-за фінансавых цяжкасцяў іх прыйшлося скараціць да мінімуму. Сур'ёзна падрыхтаваць дапрызыўнікаў да службы ў школьных умовах немагчыма. Цір зачынены, зброі няма. Узбраенне вывучаецца па кніжках і макетах. Толькі выезды на палігоны і выратоўваюць.

**Святлана ЛАВЕЙКІНА.**

### Зарплата... праз рэдакцыю?

Тры тыдні таму назад у рэдакцыю патэлефанавалі настаўнікі з Сушчоўскай школы Віцебскага раёна. Праблема заключалася ў тым, што затрымлівалася зарплата за красавік. Пасля званка ў Віцебскі раённы аддзел адукацыі і райфінаддзел пытанне вырашылася на працягу трох дзён. У чым тут справа, сказаць складана — можа, проста ўдалы збег акалічнасцей?

Аналагічны званок быў і ўчора. Але на гэты раз настаўніца нават не сказала, з якой яна школы, таму што "з дырэктарам Сушчоўскай школы ў раённым аддзеле адукацыі правялі тлумачальную работу". Паводле стану на 13 чэрвеня зарплата за май настаўнікам раёна не выплачана. Педагогі, якія збіраюцца ў адпачынак у 20-х чыслах чэрвеня, не ведаюць, ці атрымаюць яны хаця б частку адпускных. Па словах настаўніцы, у мінулым годзе грошы выдаваліся часткамі 4-5 разоў за лета. Сітуацыя ўскладняецца тым, што многія настаўнікі жывуць у Віцебску і вымушаны некалькі разоў прыязджаць за грашыма.

Цікавы момант — памылкова аддзел сацыяльных праблем рэдакцыі "НГ" назвалі "аддзелам па праблемах зарплаты". Колькі яшчэ разоў за гэта лета настаўнікам прыйдзецца атрымліваць зарплату праз лісты і званкі ў розныя інстанцыі?

**Ала ШАЎЦОВА.**

## Паважаныя чытачы!

**Працягваецца падпіска на перыядычныя выданні на другое паўгоддзе 2001 года.**

Падпісацца на "Настаўніцкую газету" можна ў любым паштовым аддзяленні краіны і ў агенцтвах "Белсаюздруку".

Падпісны кошт для індывідуальных падпісчыкаў на месяц — 635 рублёў, на квартал — 1905 рублёў, на паўгоддзе — 3810 рублёў.

Па ведамаснай падпісцы на месяц — 1375 рублёў, на квартал — 4125 рублёў, на паўгоддзе — 8250 рублёў.



### Увага!

**Шаноўныя чытачы! Просім аўтараў допісаў у рэдакцыю паведамляць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас.**

**Гэта неабходна пры налічэнні ганарару для падатковай інспекцыі.**

